ПІМЕН
ПАНЧАНКА

# Горкі жолуд

ВЕРШЫ

Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1988

ББК 84Бел7
П 16

Поэзия Пимена Панченко никогда не покидала читателя равнодушным. Ее характерные черты — страстность, правдивость, лиричность — присутствуют в каждой книге поэта.

Новый сборник «Горький желудь» составлен из стихотворений, написанных за последние два года.

П $\frac{4702120200-159}{М302(03)-88}$ БЗ 119—88



ISBN 5-340-00408-2

# НЕПРЫМІРЫМАСЦЬ

Мы ў сэрцах пранеслі
Праз кожны бой
На зямлі,
Што прапахла порахам,
Боль і любоў,
Боль і любоў
І нянавісць да ворага.

Калі адгрымела
Крывавае і страшнае,
Мы працавалі
І ў будныя дні, і ў нядзелі.
Ды ў складаным жыцці
Мы прагледзелі
Нешта важнае,
І пазмрачнелі нашы надзеі.

Мы ведаем, хто
Загнаў у тупік нашы справы,
Сёння нас не асленіць
Яркасць хлуслівага грыму.
У нашых сэрцах,
Што так цяжка дайшлі да праўды,—
Непрымірымасць,
Непрымірымасць

Да прыхільнікаў
Валу, завалу, развалу,
Падману, прыпісак,
Гультайства і спажывецтва.
Трэба, каб наша справа
Заўжды хвалявала
І родны народ,
І ўсё чалавецтва.

Недарэмна лілася
Салдацкая кроў:
Сумленне і справядлівасць
Мы адновім
Навечна.
Мы зробім сваю зямлю
Зямлёй сапраўдных майстроў,
Самай праўдзівай
І чалавечнай.

# АСНОВА

Невуцтва — агрэсіўнае і злоснае,
Кар'ерызм — паслужлівы і нахабны,
Ляныя рукі і сэрца —
Прагнуць салодкіх пацех і хабару.
А жыццё — цудоўнае і грознае.
Каб стаць чалавекам
У час наш суровы,
Помні жыцця асновы:

Гавары, як вучыла маці,
Рабі, як вучыў бацька,
Жыві, як добрыя людзі,
Усё, на што здольны,
Зрабі для Радзімы;
Злуйся не на сябра ці сяброўку,
А на ворага і бюракрата;
Не сядзі склаўшы рукі,
Калі можаш нешта зрабіць:
Выратаваць чалавека,
Пагасіць пажар.
Ну, а калі не выпадае,
Хоць усміхніся малому дзіцяці.
Не забудзь кожны дзень
Сказаць такія словы:
*Таварыш,*

*Дзень добры,*
*Калі ласка,*
*Дзякую.*
Не цурайся людзей,
Каб душа не сапсела.
Помні: жыта дзядоў
Добра ў мэндліках спела.

## ВАЛДАШЫ

*Н. П. Якаўлевай,*
*навуковаму супрацоўніку краязнаўчага музея ў г. Валдаі*

Гэтая гісторыя і знікла б,
Каб я ліст адзін не атрымаў...
Нашых продкаў
Патрыярх свяцейшы Нікан
Ад каталіцызму ратаваў.

Бо тады, ў семнаццатым стагоддзі,
Езуіты рушылі ў паход,
Каб на дзвінскай баравой выгодзе
Пакланіўся Езусу народ.

Русь была тут белаю і чыстай,
А цяпер падкраўся езуіт.
«Трэба, праваслаўныя, нам выстаяць»,—
Полацкі сказаў архімандрыт.

І не ўсе шляхі вядуць да Рыма,
І дарогі ў Кіеў не пытай...
Тысячы лапцюжных пілігрымаў
На Валдай імкнуцца, на Валдай.

Рушылі касцы і хлебасеі
І чароды беларускіх жней

Да братоў па богу — у Расею,
Каб ад д'ябла ратаваць дзяцей.

Болей пеша, а там-сям і конна,
Пыл натоўп на многа вёрст растоўк.
Везлі кафлю, гладышы, іконы
І насенне кветак і кустоў.

Хоць няма радней лясных узгоркаў
І нябёсаў не знайсці сіней,
Пакідаць свае хаціны горка,
Але кара боская страшней.

Скончана пакутная дарога! —
Воля і лясоў валдайскіх шыр.
Узвялі пазней у славу бога
Іверскі славуты манастыр.

Вось і парадніліся славяне,
Блізкія па працы і душы,
На Валдаі — рупныя сяляне,
І народ прыгожы — валдашы...

Скажа хто «Валдай» —
І мне трывожна:
Я ў лясах валдайскіх ваяваў.
На зямлі той сціплай і прыгожай
Я Дзямянск і Полу вызваляў.

У мяне не панскія замашкі:
Жуй сухар, будуй сабе шалаш...
Як спявалі юныя валдашкі!
Пасля фронту — я і сам валдаш.

Мне спявалі песні не старыя
(Ім Святлоў сказаў, што я паэт):
«Твои глазки голубые
Понесем мы в лазарет».

Не знайшоў такой красы нідзе я,
Мой Валдай, як казка для жывых.
Там жыве цудоўная Надзея,
Захавальніца падзеяў франтавых.

Па-братэрску з Мінска вас вітаю
І да вас імчуся, дарагой.
І ваш званочак — дар Валдая —
Звініць трывожна пад дугой.

# ФАДЗЕЕЎ У МІНСКУ

З Кёнігсберга, Прагі, Вены,
Не забыўшы грукат мін,
На свой з'езд пасляваенны
Мы з'язджаліся у Мінск.

Як ваенны лес зрадзелы —
Беларускіх творцаў круг.
А з Масквы да нас Фадзееў
Прымчаўся — слаўны друг.

Быў на іншых не падобны:
Рэзкі, смелы і... сівы,
Справядлівы, строгі, добры,
Юны з ног да галавы.

Гаварылі, гаравалі,
Што народ перацярпеў;
Планавалі, меркавалі,
Як і што пісаць цяпер.

У адзінай зале ў цэнтры
І гасцей, і ўсіх сяброў
Мы пацешылі канцэртам:
Пра уцёс спявак зароў...

Злосна пазіраў Твардоўскі,
Звяў і Глебка — тамада,
За вячэраю сяброўскай
Нам Фадзееў дыхту даў:

«Я прыехаў песні маці
Беларускія пачуць
І дарэмна час патраціў:
Не спяванне — каламуць.

Я ў Шаляпіна уцёс той
Слухаў, слухаў да зары.
Ваш актор басілам тоўстым
Роў, нібы асёл стары.

Маці прозвішча — Бусыга,
Клічка даўняя мая»...
Броўка, той зубамі скрыгаў,
Змаркатнелі Танк і я.

Зажурыўся мудры Колас:
«Саша, ты на нас не злуй —
Паліцэйскі трапіў голас,
І па вобліку — халуй».

Зноў турбуюцца аб свяце,
Пра канцэрты для гасцей.
Я фадзееўскую маці
Ўспамінаю ўсё часцей.

## ТРУБА



«А» і «Б»
Сядзелі на трубе.
«А» упала,
«Б» прапала.
Што засталося па трубе?

*Дзіцячая загадка*

Не па законах
Генетыкі і кібернетыкі —
І ў эканоміцы сэнсу
Дакапацца не спрабуй.
Па кабінеціку,
Па камітэціку
Мы ўзвялі бюракратычную трубу —
Грандыёзную,
Адыёзную.
Яна вышэй за ўсе Эверэсты,
Яна — лабірынт:
Наверх не дабярэшся.
У ёй размясціліся
Мільёны бюракратаў,
І дыміць яна,
Нібы камчацкі кратэр.
Нашы землі труба
Засмуродзіла,
Задыміла:
Дарага ды міла!

І лезуць уверх па трапу
Нахабным нахрапам
Прыпісчыкі
І складальнікі хлуслівых рапартаў.
І лятуць з трубы
Снежаньскім снегападам
Інструкцыі,
Цыркуляры,
Загады.
І раслі ў трубе
І каля трубы
Не станочнікі,
Не хлебаробы
І не шаўцы —
Спажыўцы!
Колькі ў іх
Лісліўвасці
І злаславасці.
Тут пануе не працавітасць,
А прагавітасць:
Не рабі,
А грабі.
І прыдумала
Бюракратычная катарга
Любімае слова:
Чарга.
На семінар
Па захаванні белых мядзведзяў
Лятуць у Азоў,
А ў Архангельску

Склікаюць параду
Па селекцыі гарбузоў.
Бюракратычную трубу
Праслаўлялі з трыбун.
А людзі думалі, меркавалі:
Дзе праўду Леніна пахавалі?
Чаму зад
Бюракратычны
Душыць лад
Дэмакратычны?
А ні выгляду,
Ні якасці тавару.
Селі на народны карак:
Спекулянты,
Жмінды,
Самалюбцы,
Дармаеды,
Дзермаеды,
Душагубцы,
Халуі
І халуіхі,
А народу ліха!
Хто арэ,
А хто глотку дзярэ.
Не разбярэшся,
Хто тут лёкай,
Хто князь.
Гэта клан,
Гэта клас,
Гэта гразь...

Мы стаміліся ад хлусні,
Мы стаміліся ад пустаслоўя.
Праўду можна было толькі сніць
На зямлі, што палітая кроўю.

Мы стаміліся ад ілжы:
Столькі год нам з трыбунаў манілі!
І на душах — налёты іржы,
І сумленне нібы падмянілі.
Перад нашым сямідзесяцігоддзем
Партыя сказала гнеўна:
Годзе!

Ну а што па трубе засталося?
Бюракраты аб мінулым галосяць.
Раней былі непрацiўленцы,
Цяпер усюды —
Супрацiўленцы.

Мы лягчэй уздыхнулі, калі
Дачакаліся праўды, галоснасці.
Бюракраты мацней узвялі
Свае доты з руціны і коснасці.

Развалілі ўсё,
Пагаспадарылі!
Справядлівасці час настае.
Па трубе мы рашуча ўдарылі
І дашчэнту раструшчым яе!

Гэта новая рэвалюцыя,
Гэта новы Кастрычнік ідзе,
Мы — байцы.
Прэч хлусню рэзалюцый!
Толькі праўду штодня,
Для людзей...

Цяжка дыхаюць мільярдзіны
На планеце людзей
Пад выццё —
Прапаведнікаў смерці ядзернай...
Як жа мы захаваем жыццё?

* * *

Сход прайшоў.
Няма ў мяне пытанняў.
І няма ні крыўды,
Ні хістанняў...
Ёсць жыццё,
І праўда сёння ёсць.
І ад нараджэння да скanання —
Ёсць каханне —
Вечнасці дыханне
І дзяцей шчаслівых шчабятанне —
Наша радасць,
Наша прыгажосць.

## ГІСТАРЫЧНЫ ВЕРЛІБР

### АМАЛЬ КАЗКА

Надзя Хадасевіч,
Беларуская дзяўчынка з Зембіна,
Заляцела ў Парыж,
Зрабілася вядомай мастачкай,
Выйшла замуж
За славутага Фернана Лежэ.
Яна ніколі не забывала родны край,
Часта ўспаміпала Беларусь,
І прыязджала, і любавалася
Бярозамі і рабінамі.
Пад старасць падарыла Зембіну
Многа сваіх карцін.
Іх, каб лепш зберагчы,
Мясцовыя ўлады так схавалі,
Што ледзь-ледзь знайшлі.

Сусветна вядомы мастак
Віцябчанін Шагал,
Які апантана любіў свой горад
І фантастычна пісаў
Віцебскіх шаўцоў і краўцоў;
Кароў, якія лётаюць;
Васількі і дзяўчат,
У якіх па месцы сэрца
Былі чорныя дзіркі;

А таксама нью-йоркскія небаскробы,
Якія развальваюцца
Ў промнях сонца.

Перад смерцю
Захацеў Шагал падарыць
Роднаму Віцебску
Некалькі дзесяткаў сваіх карцін.
Мясцовыя кіраўнікі
Пры актыўнай падтрымцы
Саюза мастакоў Беларусі
Сказалі:
«Нам не патрэбны мадэрністы».
Шагал пакрыўдзіўся і памёр...
А Віцебск страціў
Мільёны турыстаў.

Дастаеўскі напісаў:
«Без гэтай веры ў сябе
Не ўстаяў бы, напрыклад,
На працягу вякоў
Беларускі народ
І не выратаваў бы сябе ніколі».
Рэдактары кінуліся
Уставіць дадатак:
«Пры дапамозе...»,
Але выдавецтва «Наука»
У Ленінградзе
Не дазволіла псаваць
Праўдзівы тэкст Дастаеўскага...

2*

Міцкевіч хацеў
Прачытаць у Мінску лекцыю
Пра дзіўныя казкі, легенды і песні
Беларускага народа,
З якіх ён чэрпаў поўнымі жменямі
Жывую ваду
Для сваіх вершаў, балад і паэм;
Пра хараство свіцязянскай прыроды,
Пра чароўнасць і мілагучнасць
Беларускай мовы.
Але дзеячы міні-культуры
Забаранілі лекцыю.

Міцкевіч засмуціўся,
Паехаў у Парыж
І прачытаў пра ўсё гэта ў Сарбоне
Шмат ашаламляльных,
Хвалюючых лекцый.

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Ільняная і жытнёвая. Сялянская.
Баравая ў казачнай красе.
Старажытная. Ты самая славянская.
Светлая, як травы у расе.
Вобразная, вольная, пявучая,
Мова беларуская мая!
Дратавалі, здзекваліся, мучылі...
Ты жыла і ў працы і ў баях.
Пра цябе, як сонечнае дзіва,
І Купала, ды і ўсе мы снілі сны...
Ад цябе, ласкавай і праўдзівай,
Адракаюцца цяпер твае сыны.
Пра народ мой, цярплівы, працавіты,
Помняць партызанскія лясы...
Хто за намі? Пакаленне прагавітых.
Халуёў я чую галасы.
Я спяваў пра жыта і пра жаўранкаў,
Ненавідзеў акупантаў і прыгнёт,
А сягоння — вялікадзяржаўнікаў,
Што разбэсцілі вялікі мой народ.
Навучылі не рабіць —
Хлусіць і красці.
Дзеці ў школы з іншай моваю бягуць.
Я хацеў, нашчадкі, вас праклясці,
Ды люблю сваю зямлю... і не магу.

## ПАРАЗІТЫ



Пісанне паперак —
Як смактанне цукерак:
Хоць у роце не пуста,
А наедку няма.
Пакеты інструкцый,
Пакуты праверак,
А справы не грэюць:
Нуда і зіма.

Стаіць
Над народным
Спрацаваным каркам
Заўсёды
Мажны і разгневаны дзядзька.
А стыль яго працы:
Націснуць і гаркнуць,
І вынік:
Прыпіскі, падман, разгільдзяйства.

Гаворыць:
«Глядзі праз ідэйную прызму,
Сваё крытыканства
Прасей ты праз сіта».
А ў справах і стравах
Чарнобыльскі прысмак,

І твораць яго,
Як заўжды —
Паразіты.

Радзіму сцягамі
Аперажы ты,
Ды вылезуць зноў
З-пад сцягоў, з-пад зямлі
І прыйдуць на свята
Яны, паразіты,
І з гонарам скажуць:
«Мы вас давялі».

## БЕГАМЛЯ

На карце ён — Бягомль,
А людзі звалі Бегамлем:
Сяліліся ў глухіх лясах
Халопы беглыя,
Бо беглі ад прыгону, ад паноў,
Ад царскіх устаноў і пастаноў.
Жыло тут племя
Беларускіх волатаў,
Што не баялася
Ні старастаў, ні войтаў...
Кажуць людзі:
«Не з багоў мы,
Мы з Бягомля».
І ў вайну фашысты
З Бегамля пабеглі:
Ад варот паварот —
Ці зямлёй накормяць рот.
Бегамля умела біцца:
Партызанскі гром.
Партызанская сталіца
І аэрадром...
Рад, што ў гэтым я мястэчку
Гадаваўся, рос
Каля ціхай роднай рэчкі
І родных бяроз.

# ОДА ТАЛАЧЫНУ

Талачынцы — не злачынцы,
Добрых спраў яны зачынцы:
Ад гарэлкі не шалеюць,
Сеюць лён,
Жывуць з алеем.
А дзяўчынкі-талачынкі,
Як вясновыя хусцінкі,—
Кветкамі прыбраныя,
Вечна закаханыя:
То ў цябе, то ў мяне —
Шчасце дзевак не міне.
Каб сустрэцца з нашай любкай,
Не ў Бабры ты злазь,
Не ў Крупках,
Трэба ў Коханаве злесці —
Спадабаешся нявесце.
А далей — пяшэчкам
З ільняным мяшэчкам:
Не шануем важны чын,
А шануем Талачын.

## ЦЫЦЭРОНЫ

Дзед Талаш сказаць павінен слова.
Грамацей ён —
Як і ўсе дзяды калісьці.
Напісалі для яго прамову
І паставілі суфлёра за кулісы.

«За ўраджай змагаемся мы мужна,
І жывём мы багацей, святлей, дружней...»
А Талаш дык не па тэксту:
«Слушна... слушна...
Трэба сеяць жыта сёлета пазней».

«Дурны мужык, як варона».
Сёння з той адсталасцю пакончана!
Вырасла ў нас многа цыцэронаў,
З мікрафончыкам ля іх —
І цыцэрончыкі.

Ты дырэктар фабрыкі ці трэста,
Дык скажы,
Што добра там, што дрэнна.
А табе патрэбна машыністка з трэскам
І прамоў складальнік.
І арэна.

Разбухаюць, нібы цеста, штаты —
Гадавальнікі складальнікаў прамоў.
Выразкі і вытрымкі. Цытаты.
Тут ужо не да людскіх размоў.

Вочы да паперы:
Што там напілікана?
Лозунг, дыяграма — на сцяне.
«План па дзяржпрыёмцы перавыканана...
Ёсць у нас і пос... а ёсць і не...»

Можа, нам заместа тых начальнікаў
Выбраць іх памочнікаў
Ці іншых, з галавой?
Ды супраціўляюцца адчаянна
І за крэсла распачнуць смяротны бой.

Мы ў адной жа школе ўсе вучыліся,
Нам казалі:
«Да жыцця сябе рыхтуй».
Дзе ж вы і калі вы налаўчыліся
Несці ўсім вядомую лухту?

Ці перавучыць іх, ці адмесці?
Каб загаварылі, як раней:
«Мама, мама,
Бульбы дай пад'есці,
Тата, тата,
Хлеб за ўсё смачней».

Цыцэроны ўсюды, цыцэроны...
Глухнуць людзі, птушкі і звяры.
А вароны?
З розумам вароны.
Як дзяды,
Як сам Талаш стары.

* * *

Не спявай мне песню пра арэлі
І пра сон дзяўчыны на зары...
Азвярэлі людзі, азвярэлі.
Вы даруйце, добрыя звяры.
Не знаёмы вам злачынцаў сродкі:
Трэба толькі ежа вам, не кроў...
Б'юць жанчын цяжарных,
Рэжуць глоткі,
Забіваюць, п'яныя, бацькоў.
Прагныя, пачварныя істоты
Б'юць з-за грошай, рэчаў залатых.
Восень...
Парыжэла ўся лістота,
Паніжэлі голыя сады.
Мудрыя народныя асновы,
Мы без вас у жорсткасці згарым!
Кожны год да нас прыходзіць новым,
Адыходзіць змрочным і старым.
Ад нявер'я і тугі не плачу,
Веру:
Дабрыня людская ёсць —
Толькі ў працы з поўнаю аддачай,
І ў каханні шчырым і гарачым,
І ў вачах даверлівых дзіцячых,
Дзе яшчэ не начавала злосць.

# НАЗВЫ

Залессе, Плёсы, Крэва,
Ваўчу і Ваўкавыск
Змяніць, закрэсліць трэба! —
Здаўна я чую віск.

І трубяць зноўку боўдзілы,
Што Мсціж, і Арахі,
І Бортнікі, і Бондары
Здаваць пара ў архіў.

Бо назвы ў вас жабрачыя
І па-сялянску нудныя:
І Жабінка, і Жабчыцы,
А ёсць яшчэ і горш.
Даём вам назвы новыя
Пасёлкаў: Ізумрудны,
Жамчужны, Лучазарны,
І горад Салігорск,
І горад Светлагорск.

А ў нас паміж лясоў, балот
Ніколі гор тых не было.

## ШУКАННЕ

Пажаўцелі бярозы,
Чырванеюць кляны.
Ты мне сэрца пагрозна
Не кляні, а крані.

Ты шукаеш удачы,
Ды шукаеш дарма:
У бацькоў маіх дачы
І машыны няма.

Адвячоркам і ўранні
Мне крычыш: «Адчыні!»
Я шукаю кахання
І людской дабрыні.

І павагі, і ласкі,
І сяброўства навек.
Ты званочкам не бразгай:
Ты не той чалавек.

* * *

Аб самым смачным
Жаб'ім кракацінні
Буслы клякочуць
І глядзяць: «Дзе гай,
А дзе дрыгва і ціна?»
Буслы стаяць,
Як балерыны на карцінах
У мастака Дэга.

Было так па-над Прыпяццю
Учора...
А сёння ўсюды цьмяна, дымна, чорна,
Не звіняць у небе жаўрукі...
Божа, не гані мяне ў пячоры,
Божа, не гані у глыб ракі!

Які Дэга?
Тут пахне Хірасімай.
Няма слядоў бусліных
І ласіных:
Над Прыпяццю —
Нябачнай смерці след.
Палескі край,
Як пазмрачнеў твой свет.

# ДАВАЕННЫЯ ФОТА

«Адкуль у цябе даваенныя фота?
У нас усё знішчыў фашысцкі разбой...»
Адкуль?
Адкажу вам, сябры, я ахвотна:
Ад маці,
Ад роднай матулі маёй.

Пагнала матулю вайна за Саратаў
(Сям'я да вайны наша добра жыла);
Ні коўдраў, ні плаццяў, ні іншых апратак
Яна не ўзяла,
Але здымкі ўзяла.

У стэпе за Волгай грымяць навальніцы,
А маці гаруе пра вёсны свае:
У родным ляску зацвітаюць суніцы,
А дома салоўка ў няволі пяе.

Збіраліся бежанкі вечарам сумна
І ўсё ўспаміналі пра дзетак сваіх:
Як мы, не было такіх добрых, разумных,
А мы і да плачу даводзілі іх.

Як нас параджалі,
Як нас праважалі,

3 Зак. 1694

Лічылі:
Ці хутка канец той вайне.
А многія з нас — у магілах ляжалі,
І матчыны сэрцы балелі мацней.

Адкуль у мяне даваенныя здымкі?
Я маці не цешыў: свавольнікам быў;
Саромеўся матчыных шчырых абдымкаў
І толькі за песні старыя любіў.

# У МАСКВЕ 42 ГОДА

Былыя наркомы ў Маскве апынуліся,
Мы трапілі з Бранскага фронту ў рэзерв.
Сустрэліся ў «Якары»,
Не размінуліся:
У нас і ў наркомаў сум сэрцы грызе.

Рабілі яны, як валы, і... манілі:
Любою цаною! Хоць плач, хоць крычы...
Пасля трыццаць сёмага мову змянілі,
Ды мова з палескім акцэнтам гучыць.

У іх, як і ў нас, былі твары апалыя,
У зморшчынах ранніх і вочы і рот.
«Скажыце, дзе Колас? Дзе Янка Купала?»
«Дзе вашыя сем'і? Калі зноў на фронт?»

Была тут і чарка, была і закуска,
Такое здараецца між таварышоў...
«А маці мая засталася ля Глуска»,
«Мой бацька стары ў партызаны пайшоў...»

Іх словы дрыжэлі ад хвалявання,
Усе паляўнічыя і рыбакі:
«Якое ля Прыпяці ў нас паляванне!
Якая рыбалка! А баравікі!»

І ўсё, што з маленства ў душы засталося:
І родныя песні, і жарты, і смех —
Усё ажыло,
І тады мне здалося:
За вокнамі сыплецца мінскі наш снег.

«Якая ў нас мова! Якія ў нас людзі!»
Хвалілі і бульбу, і лён, і лазу...
Наркомы слязьмі нам закапалі грудзі
І ў нас, франтавых, выбівалі слязу.

## ЯК ГІНУЦЬ ПАЭТЫ

Мы гінем ад злосці,
Хлусні, ананімак.
І густам мяшчанскім
Прыносім даніну.

Мы гінем ад жорсткасці,
Пыхі і сквапнасці,
Таму ў нашых вершах
Так мала прывабнасці.

Мы гінем ад прагнасці,
Лютасці, зайздрасці,
Таму ў нашых вершах
Ні праўды, ні радасці.

Патрэбна майстэрства сваё
Асядлаць,
А нас прывучаюць
Штодня засядаць.

Прыгоннае права
Бюракратызму
Даводзіць людзей
Да ідыятызму.

Няздольнасць рабіць
З найвышэйшай аддачай,
Кіруе да пляшкі,
Кіруе да дачы.

Мы рэдка чытаем
Таварышаў вершы,
Заўсёды здаецца
Свой верш цікавейшым.

Твой лепшы таварыш
Гатовы табой кіраваць,
А таленту пробліск
Не можа табе даравандь.

Пакуль ты пасрэдныя вершы шкрабеш
Пра рэчку і грэчку,
Пакуль ты
Не ўзяў нашай праўды высокі рубеж,
А жонкай залічаны ў культы;

Ты пішаш пра зорку,
Пра крылле буслоў,
Пра сцежку да роднага дома,
Цураемся мы тых заезджаных слоў.
І голас нам твой невядомы.

Не плаксы, не крыксы,
Не цямці, не лямці,

## ПАЯДЫНАК

Чаму ў паэта зноў настрой паганы?
Якая там за мову барацьба,
Калі расце патомак партызана
З душою баязліўца і раба.

З душою спажыўца і кар'ерыста...
Пра будучыню марыў я не раз,
Аб людзях працавітых, гордых, чыстых
Без гультаёў, паклёпнікаў, пралаз.

«Не характэрна.
Ёсць героі: Чэпік...
Майстры перабудовы, маякі...»
А бюракратаў крышачку зачэпіш —
Адпомсцяць подла, натаўкуць бакі.

Абрыдла пустаслоўя недарэчнасць,
Не цешаць ні сябры, ні кнігі, ні радня.
Наіўна я пісаў пра чалавечнасць:
Заместа працы — ўсюды балбатня.

Не сніся мне, жытнёвае маленства,
Развеяўся начлежны цёплы дым...
А навакол — адны мерапрыемствы,
На мове канцылярскай мы гудзім.

А клён гарыць разгневана і пекна,
А у мяне — Чарнобыль на душы.
Мажліва, мне сысці на год у пекла?
Ды не прапусцяць:
Мала награшыў.

А вучацца цяпер грашыць са спрытам,
І прастытутак больш, чым салаўёў.
А той, хто прагна жрэ са спецкарыта,
Зноў павучанне нуднае развёў:

«Ты пішы пра кветкі і каханне.
Не чапай начальнікаў...
А мы
Са сваімі роднымі грахамі
Самі дойдзем да сваёй зімы.

А цябе з тваёй перабудовай
Хутка мы і скруцім, і сагнём.
Наша праўда правіць будзе доўга,
А тваю — не знойдзеш і з агнём».

## ВАРЫЯНТ

Мы баімся ядзернай і хімічнай...
Я сам
Камітэт па справах міру вяду.
А трэба капаць калодзежы,
Каб мець запасную ваду,
Бо катастрофа
Можа прыйсці празаічна.

Выведзе са строю
Злачынец ці пяўмека
Электрычнасць,
Каналізацыю
І водаправод —
І настане канец
Электроннага веку,
Захлынецца ад смагі і бруду
Адукаваны народ.

Я сціпла вылез
Са сваім варыянтам,
А мяне палічылі вар'ятам.

* * *

А навошта нам установы?
Каб пісаць кожны дзень пастановы.
А навошта нам пастановы?
Каб жылі і цвілі установы.

## ЮБІЛЕЙНАЕ

Кветкі — найярчэйшыя,
   Пахвала — найбольшая...
Як жа цябе любяць,
   Як жа цябе цэняць!
Ляжу паміж кветак
   Перспектыўным нябожчыкам
Ці балерынай,
   Якую зжываюць са сцэны.

Сэрца зноў атручана
   Горкім пачуццём:
Злыдняў-бюракратаў
   Нідзе не папуталі.
За праўду і смеласць
   На фронце плацілі жыццём,
А сёння — інфарктам,
   Нястачай, пакутамі.

* * *

Не сярдуйце, не крыўдуйце,
Бо жыццё нялёгкае.
Быў часамі я прыдуркам,
Ды ніколі лёкаем.

Ананімшчыкаў зласлівых,
Невукаў-халтуршчыкаў,
Бюракратаў ганарлівых
Многа мной патрушчана.

З імі я не меў гешэфту,
Хабар не прывозіў я...
Быў мне лес адзіным шэфам,
Кансультантам — возера.

Толькі вершы...
Душна, душна...
Карані падрэзаны.
Стаў народ мой раўнадушны
Да роднай паэзіі.

Не сярдуйце, не крыўдуйце,
Гаснуць сонца колеры.
І на беларускай дудцы
Не іграць ніколі мне.

Пакуль паціху іншыя
Стваралі хутары,
Рабіў, рабіў увішна ён —
І вось... ужо стары.

Вучыў дзяцей ён добраму:
Не клянчыць, не прасіць.
І ў справе самай дробнай
Ніколі не хлусіць.

Быў вечным ён маўчальнікам,
Чакаў, цярпеў, трываў.
Шафёр яго начальніка
Кватэру атрымаў.

Яго ж кватэрка цесная,
Ды рад ён зноў і зноў,
Што выгадаваў чэснымі
Дачку і двух сыноў...

У гневе, злосці, ярасці
Гул грозных галасоў.
Пах беднасці і старасці —
Мільёны адрасоў.

Дзівак сцвярджае:
«Верце,
На свеце слаўна жыць!»
Але чаму так сэрца
Сумуе і баліць?

## РАЗВІТАННЕ

Вялікая дзяржава —
Вялікая ідэя.
І ўсё ж, таварыш мой,
Мазгамі шавяльні:
Каля агню братэрства
Растуць і ліхадзеі
І расцвітае
Вялікадзяржаўны шавінізм.

Малыя народы —
Як грошы разменныя ў касах.
На бронзавых конях
Усюды сядзяць палкаводцы:
То пакарэнне Каўказа,
То высяленне Каўказа,
То Беластоцкая вобласць,
То ваяводства.

Якія б войны
У нас ні перакатваліся,
І як бы акупанты
Ні дратавалі зямлю,
Рана ці позна
Народы расправўляліся з катамі,
І зноў аралі і сеялі,
І гаварылі: «Люблю».

Пахлі нашы пожні
Мятаю і рутаю,
А цяпер
Пасля аграхімічных праполак
Пахне глеба гербіцыдамі,
А вада атрутаю.
У рацэ — ні плотак, ні язёў,
Ні ў жыце перапёлак.

А нашы псеўдаасветнікі,
Сабраныя на канцылярскіх сметніках,
Магутныя бюракраты
Уласным сцверджанням рады:
«Гаворыш па-руску —
Інтэрнацыяналіст;
Гаворыш па-беларуску —
Нацыяналіст.
Вучы дзяцей французскай,
Ангельскай, эсперанта,
Але не беларускай...» —

Палохаюць піраты.
І адвучылі
Дзяцей і бацькоў,
І адлучылі
Ад родных народных слоў.

Вучоны невук
Ці дурнаваты крытык,
Якія паэзію

Не разумеюць і не адчуваюць,
То ў жанры даносу,
То пагардліва адкрыта
Мяне з году ў год
Ушчуваюць:

«Каму патрэбна
Тваіх маніфестаў рыторыка?
Трэба пра шчасце пісаць
І далі прасторныя».
А я журуся:
Мала ў Беларусі
Разумных гісторыкаў,
Якія любяць і ведаюць
Родную гісторыю.

Закрэслілі б невукі
Мары усе залатыя:
«Знікае ўсё:
І вучэнні, і мовы, і веры.
Сёння Рым размаўляе
Не на латыні,
А Афіны гавораць
Не на мове Гамера».

Мы спазніліся
На сотні, напэўна, гадоў,
А можа,
На цэлае тысячагоддзе,
Мы забылі пра вольнасць

Старажытных сваіх гарадоў.
Наш цягнік адышоў.
Знікла родная мова
Ў народзе.

У кожнага ёсць
Свае рэкі —
Ці Дняпро, ці Нёман,
Ці-хі Дон, ці раз'юшаны Енісей.
У сваіх парадзелых лясах
Я не чую
Ўсхвалёваны гоман,
А рака памутнелага часу
Нас нясе, і нясе, і нясе...

Пастаю я самотна
Каля полацкай белай Сафіі,
Паблукаю ў Гародні,
Пажуруся ў турава-пінскім Палессі,
А вочы мае ўжо не плачуць —
Сухія-сухія:
Не чутно мне з былога
Ні грому,
Ні звону,
Адны толькі казкі
Ды песні...

Родны Янка Купала,
Вы пісалі:
«Я веру — настане...»

Дарагі мой Іван Дамінікавіч,
Не, не настане!
Гэта ўжо не світанне,
Гэта наша настала змярканне,
Гэта з мовай маёй,
Гэта з песняй маёй
Развітанне.

* * *

Калі закоціцца сонца,
На небе запаляцца зоркі
І ў кожнай расінцы ўспыхне
Таемны малы светлячок —
Ты любіш жыццё і сонца,
Людзей, хоць бывае горка;
Ты любіш і дрэвы, і росы,
І зорны загадкавы змрок.

Калі закоціцца сэрца,
Ніколі не ўспыхнуць зоркі:
Цябе адвязуць, закапаюць —
Ляжы век сляпы і глухі...
Заплачуць жонка і дзеці
Ды ўнукі — журботна і горка...
Астатнія ўмомант забудуць:
У іх і жыццё, і сонца,
І дрэвы, і ў кветках лугі.

## ЗМЕСТ

**Панчанка П.**

П 16 Горкі жолуд: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 63 с.

ISBN 5-340-00408-2.

**Панченко П. Горький желудь: Стихи.**

Паэзія Пімена Панчанкі ніколі не пакідала чытача абыякавым. Яе вызначальныя рысы — страснасць, праўдзівасць, лірычнасць — прысутнічаюць у кожнай кнізе паэта.

Новы зборнік «Горкі жолуд» складзены з вершаў, напісаных за апошнія два гады.

**П $\frac{4702120200-159}{М\ 302(03)-88}$ БЗ 119—88 ББК 84 Бел 7**

*Литературно-художественное издание*

ПАНЧЕНКО ПИМЕН ЕМЕЛЬЯНОВИЧ

**ГОРЬКИЙ ЖЕЛУДЬ**

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ПАНЧАНКА ПІМЕН ЕМЯЛЬЯНАВІЧ

**ГОРКІ ЖОЛУД**

Вершы

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар К. У. Дзмітрыенка.
IБ № 3191
Здадзена ў набор 20.07.88. Падп. да друку 22.09.88. АТ 09688. Фармат 60×90 1/32. Папера афс. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,0. Ум. фарб.-адб. 2,13. Ул.-выд. арк. 1,81. Тыраж 4200 экз. Зак. 1694. Цана 35 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.